# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 47 (1030) ГОД XX 23 ЛІСТАПАДА 1975 г. ЦАНА 60 гр.



Букаты. Фота В. Рудчыка.




Нядаўна пераканаўся я, што мае веды пра нашу вёску зусім недастатковыя, бо змяняецца яна зараз намнога хутчэй, чым нашы прывычныя традыцыйныя пра яе меркаванні.

# БУДЗЕ БЕЛАСТОЦКІ ПАЎМІЛЬЁН!

Па ініцыятыве Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку і Беластоцкага ваяводскага ўпраўлення 21 кастрычніка г.г. ўдзельнічаў я ў вельмі павучальнай экскурсіі беластоцкіх і варшаўскіх журналістаў па некаторых мясцінах Беластоцкага ваяводства. Найперш пабывалі мы ў **Юхнавецкай спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў**, якая ў вёсцы **Заёнчкі** абсталявала **свінаферму.** Але якую! **Разам тут знаходзіцца амаль 2 тысячы кормнікаў. Гэта ўжо сапраўдная фабрыка мяса! За першыя тры кварталы** г.г. **спулдзельчая гаспадарка ў Заёнчках прадала дзяржаве 112 тон мяса.** У ліпені г.г. быў перададзены ў карыстанне новы свінарнік, пабудаваны па праекту Інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі, што ў скарачэнні абазначаецца знакам „ІМЭР“. Будынак велізарны, змяшчае 580 свіней. Аднак, не вельмі ўдана праходзіць практычнае выпрабаванне, асабліва дрэнна зроблены тут кармавыя сіласы. Яны ўжо проста разваліліся. Падобны свінарнік бачылі мы яшчэ ў Навасадах, і там таксама наглядаліся падобныя клопаты. Справа патрабавала б аднак больш падрабязнага разгляду, а ў мяне сёння няма на гэта часу.

Побач з „імэроўскім“ свінарнікам стаіць у Заёнчках іншы, часткова толькі пабудаваны, разлічаны на 800 свіней. Кошт пабудовы аднаго адсека ў гэтым свінарніку прыблізна на дзве тысячы злотых меншы ад таго, што прапануе славуты ІМЭР. А калі гэтыя дзве тысячы памножыць на 800... Вось якая атрымоўваецца адказнасць!

— Беластоцкае ваяводства ў цяперашніх яго межах, — гаварыў нам віцэ-ваявода Станіслаў Топур, — мае спрыяльныя ўмовы для развіцця свінагадоўлі, якая перш за ўсё патрабуе многа бульбы. Бульба ў нас ёсць, збожжа таксама. Трэба нам толькі адважных людзей, якія не палохаліся б жывёлагадоўлі ў вялікіх маштабах. Нашы сяляне ад дзядоў-прадзедаў прызвычаіліся да гадоўлі ў хлеўчыку на 5-10 свіней і слухаць усё яшчэ не хочуць, калі гутарка ідзе пра мільённыя капіталаўкладанні. Гэта іх палохае. І таму шмат прасцей дагаварыцца з кааператыўнымі гаспадаркамі, незалежна ад таго, пад якой назвай яны выступаюць. Могуць быць гэта ПГР-ы, прадукцыйныя спулдзельні і спулдзельні сельгасгурткоў. Гэтым кааператыўным гаспадаркам давяраюць цяпер загаспадаранне дзяржаўнага фонду зямлі, якога да 1980 года мае быць у нас каля 100 тыс. га.

Арганізатары экскурсіі клічуць у дарогу, на якой — кароткі прыпынак у мясцовасці **Тапаляны. Тут Міхалоўская спулдзельня сельгасгурткоў разводзіць авечак. Аказваецца, авечкі — гэта таксама спецыяльнасць Беластоцкага ваяводства, і ў гэтай галіне жывёлагадоўлі знаходзімся мы на перадавых месцах у краіне.**

У Тапалянах адна аўчарня ўжо запоўнена кудлатымі жыхарамі, а другая яшчэ ў будове. Паабапал бетоннага праезду даўжынёю ў 100 метраў стоўпіліся ў адсеках пры кармілках 520 авечак. Хтосьці жартуе, што на гэтай праезнай дарожцы можна праводзіць трэніроўкі па гонках.

З Тапалян — у Рыбалы. **Тут за вёскай пад лесам ідзе будова фабрыкі курынага мяса. Праз паўтара года адсюль кожны год будуць паступаць у продаж 2 мільёны адкормленых курант, што раўняецца больш-менш 3 тысячам тон высакаякаснага мяса.** Будову фінансуюць прадукцыйныя спулдзельні Беластоцкага ваяводства.

Такая спулдзельня знаходзіцца ў Тыневічах Вялікіх. Тут ужо цяпер ажыццяўляецца смелая ідэя і зарысоўваецца воблік будучыні нашай вёскі. **Паводле яе ўся Нараўская гміна будзе складаць адзіны сельскагаспадарчы вытворчы комплекс,** у якім кожнай вёсцы прызначаецца свая роля. Для прыкладу: **у Ваських — свінагадоўля, 12 тыс. штук у год; у Трасцянцы — авечкі, 9 тыс. штук у год; у Тыневічах Вялікіх і ў Даратынцы — адкорм ялавічыны, разам 3200 штук.**

Пры гэтай нагодзе загадчык сельскагаспадарчага аддзела Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку тав. **Мікалай Гапунік** прыгадаў нам:

(Працяг на стар. 2)

## Новыя вершы

*Што найсумнейшае ў свеце?*
*Восеньскі дождж несціханы?*
*Можа лістоў ападанне,*
*Крык журавоў развітальны?*

*Можа скрып весніц, з якімі*
*Толькі бяседуе вецер,*
*Скарга самотная скрыпкі,*
*Плач немаўля на дасвецці?*

*Можа чаканне таго, чый*
*След перамецены пылам?*
*Можа старэнне жанчын,*
*Тых, якіх зналі, любілі?*

*Не шкадаваў бы нічога:*
*Ні маладосці гарачай,*
*Ні сваіх сіл — каб на свеце*
*Гэта ўсё змог перайначыць.*

**Максім Танк**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“



# ЯШЧЭ АДЗІН

Гэтага свайго вялікага дня культура ў **Дуброве Беластоцкай** чакала доўга, можна сказаць — цэлыя дзесяцігоддзі, а наступіў ён у сонечны надвячорак 24 кастрычніка бягучага года. Менна тады віцэ-міністр культуры др **Юзаф Файкоўскі** ў акружэнні прыбыўшых сюды дзеячоў культуры з усяе Беласточчыны і ў прысутнасці шматлікіх дубраўчан адкрыў новы Дом культуры. І добра сталася, што якраз насцеж адчыненыя дзверы яшчэ аднаго дома культуры ў адлеглым ад вялікіх гарадскіх цэнтраў мястэчку і сядзібе гміны адкрыў сёлетні культурна-асветны сезон у нашым ваяводстве. Гэта доказ таму, што з году ў год, паступова, але няспынна на Беластоцкай зямлі ўсё гусцее сетка новых культурных установаў, а насельніцтва атрымоўвае больш шырокія магчымасці выяўляць і развіваць свае таленты, непасрэдна ўдзельнічаць у стварэнні культурных вартасцей.

Вось хоць бы ў гэтай самай Дуброве Беластоцкай. Доўгі час такія культурна-асветныя ўстановы, як публічная і педагагічная бібліятэкі, грамадская музыкальная школа для дзяцей, культурна-асветная парадня, святліца, туліліся ў сямі розных кутках, параскіданых па ўсім мястэчку. У такіх умовах не магло быць мовы пра іх сканцэнтраваную і мэтанакіраваную дзейнасць, якая б пладатворна ўздзейнічала на развіццё культурнага жыцця не толькі на ўсёй тэрыторыі былога Дуброўскага павету, але нават ахоплівала сваёй дзейнасцю само мястэчка.

Калі некалькі год таму назад наступіла паніжэнне дэмаграфічнага ўздыму і колькасць дзяцей у мястэчку зменшылася, адзін з новых школьных будынкаў аказаўся пусты. На працягу двух год за сродкі з Ваяводскага ўпраўлення і пры грамадскіх пачынах дубраўчан гэты абшырны аб'ект прыстасавалі на дом культуры. Ён атрымаў сучасную абліцоўку і багатае абсталяванне.

— Культура пачынаецца там, дзе не спыняецца ўпартая штодзённая творчая праца, салідная праца, — заўважыў пры адкрыцці новага аб'екта дырэктар аддзела культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення **Ф. Пёнткоўскі.** — А ў Дуброве гэтая дзейнасць нават у надта цяжкіх умовах разгортвалася.

— Цяпер культура ў Дуброве ўжо мае сваю сталую і сапраўды культурную сядзібу, — з радасцю кажа дырэктар дома культуры **Р. Слуцкі,** у мінулым настаўнік музычнага выхавання, шматгадовы арганізатар і кіраўнік

(Працяг на стар. 4)



*На ўрачыстасці адкрыцця культурна-асветнага сезона на Беласточчыне выступіла адароная салістка Лідзія Лайкоўская — выхавацельніца дзіцячага саду ў Дуброве Беластоцкай.*

ГМІНЫ

# БОЦЬКІ

На 1 га ў Боцькаўскай гміне высяваецца цяпер па 164 кг NPK. Апрача таго, кожны гаспадар угнойвае зямлю натуральным гноем, які ў спалучэнні з мінеральным дае добрыя вынікі. Вось таму на палях і сенажацях там высокія ўраджаі. Гэты год быў асабліва шчодры. Праўда, не найлепш ўдалася ярына, але затое ўрадзілі азімыя культуры ды бульба, якая з'яўляецца адным з галоўных кармоў хатняй жывёлы. А жывёлагадоўля ў Боцькаўскай гміне належна развіваецца. У ёй спецыялізуюцца і аднаасобныя гаспадары, як, напрыклад, Францішак Пятроўскі з вёскі Седлец, які гадуе каля 100 свіней, Эдмунд Дабравольскі з Пятрова, які мае больш 60 авечак. Спецыялізуюцца ў жывёлагадоўлі і гаспадарскія суполкі. Да найлепшай залічваецца суполка на чале з Тадэушам Невяроўскім з Андрыянак (хутар), якая пабудавала нават кароўнік на 30 кароў.

Кааператыў сельскагаспадарчых гурткоў у Малочках у паспулдзельчых будынках будзе адкормліваць 100 бyкатаў, а СКР у Дубне на працягу года прадае дзяржаве больш 2 тыс. кормнікаў. Спецыялізуецца ў жывёлагадоўлі таксама ПГР Вандалін.

У гміне Боцькі нішто так добра не развіваецца, як гадоўля быдла. Калі ў 1972 г. у сярэднім прыпадала на 100 га зямельных угоддзяў 62 штукі быдла, дык ужо ў 1975 годзе — 79,6 штук. У гэтым годзе вялікая ўвага была звернута на якасць адкормлівання жывёлы, на павелічэнне вагі быдла, якое прадаецца на мяса дзяржаве.

Гмінныя ўлады плануюць дабіцца павелічэння колькасці быдла на 6% у год

(Працяг на стар. 2)

(Працяг са стар. 1)

# БОЦЬКІ

і ў 1980 г. атрымаць 105 галоў на 100 га зямельных угоддзяў. Ну што ж, планы амбітныя, планы на меру нашых часоў.

У Боцьках многа ўвагі ўдзяляецца правільнаму выкарыстоўванню зямлі. Галоўнае, каб яна не ляжала аблогам, каб кожны гектар быў засеяны. Справа гэта асабліва важная, паколькі з кожным годам павялічваецца дзяржаўны фонд зямлі за кошт гаспадарак, перададзеных дзяржаве за пенсію. У гэтым годзе старыя людзі аддалі дзяржаве 500 га зямельных угоддзяў. Да 1980 года такой зямлі будзе 800 га. Але ўжо цяпер вырашана, хто на ёй будзе гаспадарыць: 420 га будзе прыдзелена СКР-ам, 100 га — мясцоваму ПГР, 100 га будзе аддадзена ў арэнду і 80 га будзе прададзена сялянам. Запланавана разумна. Трэба толькі, каб хапіла настойлівасці ў выконванні запланаванага.

Многія сяляне гміны Боцькі займаюцца вырошчваннем трускалак. Найбольш — у вёсках Красновесь, Нурэц і Дубна. У гэтым годзе дзяржава заплаціла за трускалкі сялянам Боцькаўскай гміны 8 млн. 400 тыс. зл.

Паводле планаў гмінных улад у 1980 годзе плантацыі трускалак павялічацца да 300 га. Гмінныя ўлады плануюць таксама асвоіць зусім новую, вельмі даходную культуру. З'яўляецца ёю жытні спарыш, які прымяняецца пры вырабе лекаў. Працаўнікі гміны сцвярджалі, што можна атрымаць з аднаго гектара спарыша на суму 900 тыс. зл. Сумы аграмадныя. Варта каля гэтага пахадзіць.

Цяпер хуткімі тэмпамі павышаецца матэрыяльны і культурны ўзровень жыхароў вёсак Боцькаўскай гміны (і не толькі Боцькаўскай). У 1972 годзе дзяржава выплаціла сялянам за ўсё ў іх купленае па 23 тыс. зл. у разліку на аднаго статыстычнага гаспадара. У 1974 годзе сума гэта падвоілася. А ўжо ў першым паўгоддзі 1975 года на аднаго статыстычнага гаспадара выпадала даходу па 25 тыс. зл.

І яшчэ адна вельмі істотная справа. У Боцьках адчуваецца, што Гміннае ўпраўленне з'яўляецца ўжо сапраўдным гаспадаром свайго мікрараёна, што становіцца добрым арганізатарам сельскагаспадарчай прадукцыі, што стаіць ужо на ўзроўні сваіх абавязкаў. Як сцвярджае старшыня Гміннай рады, сакратар Гміннага камітэта ПАРП тав. Віталіс Леўчук, вялікая ў гэтым заслуга начальніка гміны Кастуся Санкевіча. Ён умее па-гаспадарску думаць і па-гаспадарску гаварыць з сялянамі. Ён часта ездзіць на спатканні з сялянамі. Разам з ім прыязджаюць некаторыя працаўнікі гміны і прадстаўнікі паасобных устаноў. На гэтых спатканнях абмяркоўваюцца мясцовыя хвалюючыя справы. У апошні час адбыліся такія спатканні ў Боцьках, Нурцы, Якубоўскіх. Шмат спраў ужо выяснена, шмат спраў ужо ўладжваецца. У выніку гэтага беспасрэднага кантакту з сялянамі паяўляецца ўсё менш скаргаў, няма цяжкасцей з арганізаваннем грамадскіх пачынаў, лепш праходзіць закуп закантрактаваных культур, павысілася пашана да ўлады, павысілася грамадская дысцыпліна, лад і парадак.

**Міхась Хмялеўскі**

(Працяг са стар. 1)

## Будзе беластоцкі паўмільён!

— Вядома, што Беластоцкае ваяводства ў старых межах абавязалася дабіцца ў жывёлагадоўлі 1 мільёна кароў. **Мы не забылі аб гэтай ідэі і сёння заяўляем, што ў новых межах Беластоцкае ваяводства ў 1980 годзе папоўніць сваю жывёлагадоўлю да ПАЎМІЛЬЁНА кароў!** Гэта адказнае, але зусім рэальнае заданне.

Былі мы і ў іншых мясцовасцях Беластоцкага ваяводства, і ўсюды спадарожнічала мне думка: **будучыня нашай сельскай гаспадаркі — ў велізарных маштабах, яна шматтысячная, мільённая, калі лічыць капіталаўкладанні і колькасць жывёлы.** І, галоўнае, **яе зарысоўка відаць ужо цяпер.**

**Віктар Рудчык**



НАТАТКІ З ПАДАРОЖЖА

## ЗВАНЫ ХАТЫНІ

У складзе турысцкай групы з выдавецтва „Кніга і веды“, у якім працую, давялося мне ў верасні пабываць на Беларусі.

13 верасня — падарожжа ў Хатынь. Гэта 54 км ад Мінска, па шашы ў напрамку Віцебска. Экскурсавод па дарозе расказвае трагічную гісторыю спаленай гітлераўскімі акупантамі беларускай вёскі.

22 сакавіка 1943 года карны батальён гітлераўцаў акружыў вёску. Усіх хатынцаў сагналі ў хлеў і падпалілі. 149 чалавек, і сярод іх 75 дзяцей, навечна ляглі ў адну брацкую магілу.

Па рашэнню ўрада рэспублікі на месцы спаленай вёскі Хатынь узведзен велічны мемарыяльны архітэктурна-скульптурны комплекс, які займае плошчу 50 га, на ўшанаванне памяці жыхароў вёскі Хатынь і іншых беларускіх вёсак, знішчаных нямецкімі акупантамі разам з насельніцтвам у 1941-1944 гадах.

Архітэктары Ю. Градаў, В. Занковіч. Л. Левін, скульптар С. Селіханаў, галоўны інжынер праекта В. Макарэвіч у камені і бронзе ў 1969 годзе ўвекавечылі нязломную мужнасць беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Ступаем на шматпакутніцкую зямлю Хатыні. Углядаемся ў бронзавую постаць мужчыны, які нібы ідзе нам насустрач, трымаючы на знясіленых руках цела мёртвага сына. Правобразам няскоранага чалавека для скульптара стаў І. Камінскі, адзіны з дарослых жыхароў Хатыні, якому ўдалося выратавацца.

Побач самкнёныя гранітныя пліты нагадваюць дах хлява, у якім фашысты спалілі жыхароў вёскі. Вянок памяці з белага мармуру са словамі наказу мёртвых для жывых: „Людзі добрыя, помніце: мы любілі жыццё і Радзіму нашу, і Вас, дарагія. Мы згарэлі жывымі ў агні. Наша просьба да ўсіх: хай жальба і смутак абернуцца ў мужнасць і сілу, каб змаглі ўвекавечыць Вы мір і спакой на зямлі. Каб нідзе і ніколі ў віхры пажараў жыццё не ўмірала“.

З другога боку Вянка адказ жывых загінуўшым. „Родныя Вы нашы! У смутку вялікім схіліўшы галовы, стаім перад Вамі. Вы не скарыліся лютым забойцам у чорныя дні фашысцкай навалы. Вы смерць прынялі, ды полымя сэрцаў вашай любві да Савецкай Радзімы навек незгасальна. Памяць пра Вас у нас назаўсёды, як неўміруча наша зямля і як вечна яркае сонца над ёю“.

Колішняя вясковая вуліца выкладзена бетоннымі плітамі. На месцы кожнага спаленага дома — вянок зруба з шэрага жалезабетону, унутры яго — абеліск у выглядзе коміна, на якім дошка з прозвішчам і імёнамі спаленых жыхароў дома, наверсе абеліска — звон, які звоніць кожную мінуту.

На могілках вёскі захоўваецца зямля з 186 вёсак Беларусі, спаленых разам з жыхарамі і не адноўленых. Побач узвышаюцца сімвалічныя Дрэвы жыцця са спісам адроджаных 433 вёсак Беларусі. Мемарыял уключае Сцяну памяці вязняў фашысцкіх канцлагераў.

Вечны агонь запалены на ўшанаванне памяці ахвяр фашысцкага тэрору, і побач з ім тры бярозкі, як сімвал жыцця, прыгадваюць, што кожны чацверты жыхар Беларусі стаў ахвярай фашызму.

З вялікім сумам у сэрцы вярталіся мы з Хатыні, глыбока перажываючы трагедыю спаленых гітлераўцамі беларускіх вёсак.

**Віктар Швед**

## Наша галерэя




*І. Хацькоў, Мінск, Шкатулка „Хатынь“ (інкрустацыя па дрэву).*

## ШТО НОВАГА?

### Кінаязычнікі

Рэжуць і забіваюць на амерыканскім экране пастаянна. Але такога да гэтага часу не было — забойства не сыгранага, а сапраўднага. Зроблен тым самым скачок у новую якасць — на самае дно бесчалавечнасці.

Паводле сведчання карэспандэнта газеты „Нью-Йорк пост“, „спачатку ў карціне ідзе больш ці менш звычайная парнаграфія“. Але потым з'яўляецца нож. Жанчыну ахоплівае жах. Напэўна, яна не здагадалася аб сапраўднай ролі, на якую яе ўзялі. Ёй наносяць нажом раны, яе забіваюць. Потым труп расчляняюць“. Усё на вачах у гледача.

Пакуль што на гэты фільм проста так білет не купіш — круцяць яго падпольна для „выбраных“. Займаюцца яго пракатам нелегальныя сіндыкаты, якія ўмеюць камфартабельна ўладкоўвацца ў амерыканскім грамадстве. Федэральнае бюро расследаванняў палюе за фільмам у Лос-Анджэлесе, Маямі і іншых гарадах. Але палюе без асаблівай ахвоты, у „свабодным“ грамадстве цяжка падвесці такія „творы мастацтва“ пад забарону. Іншая справа — сам факт забойства, гэта ўжо асобнае расследаванне.

Кажуць, такіх фільмаў выпушчана некалькі. Кажуць мяснік-„рэжысёр“ прапануе здымацца ўсім, хто жадае налажыць на сябе рукі, з наступнай выплатай грашовай кампенсацыі таму, каго назаве самазабойца. І быццам бы састаў злачынства пры такой дамоўленасці знікае. Так што не выключана, што такія фільмы хутка пойдуць тут на вялікім экране.

А пакуль радавы глядач глядзіць стужкі, дзе забіваюць і расчляняюць на звычайна густым парнаграфічным фоне, але „не па праўдзе“. Замест крыві — таматны соус.

Паліцыя лічыць, што пачатак модзе на анатамічны тэатр у кіно паклаў фільм „Сківіцы“. У ім акула ласуецца чалавечынай. Але акула механічная і глынае муляжы.

— Людзям падабаецца насілле, — разважае Джозэф Норман з бюро па кантролю над арганізаванай злачыннасцю ў Нью-Йорку. — Нездарма „Сківіцы“ — адзін з папулярных фільмаў у краіне. Таму з'яўленне фільма, аб якім напісала „Нью-Йорк пост“, трэба было чакаць. Я перакананы: актрысу там сапраўды забіваюць. Думаю, можна сказаць, што мы дасягнулі вяршыні амаральнасці...

Попыт нараджае прапанову. Але і прапанова ўплывае на попыт. Значыць, культ насілля садзейнічае росту колькасці яго прыхільнікаў.

— Развальваюцца маральныя ўстоі грамадства, — усклікнуў тэлевізійны каментатар Джым Дэвіс, паказваючы ў перадачы „Нью-Йорк раніцай“ нумар газеты „Нью-Йорк пост“ з заметкай аб „новым слове“ ў амерыканскім кіно.

Дэвіс перабольшыў. Стужкі на крыві — адэкватнае адлюстраванне маралі грамадства, дзе цэняць не чалавека, а грошы.

Язычнікі дрымучага мінулага прыносілі ў ахвяру людзей, каб задобрыць сваіх жорсткіх багоў. Кінаязычнікі сённяшняй Амерыкі забіраюць жыцці ў імя жоўтага д'ябла, каб застацца з прыбыткамі.

**Г. Герасімаў**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 22.XI.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Zool. 8.35 Film fab. 10.00 Dla najmł. Kl. I—III. Czerwone, żółte, ziel. 11.45 Tech. Rol. J. pol. 12.30 Hod. zwierz. 14.00 Red. Szk. zap. 14.10 Pr. I prop. 14.25 P. nożna Włochy—Holandia. 16.20 Dzien. 16.40 Obiektyw. 16.50 Przerwa śniadaniowa — film dok. 17.05 Za kierownicą. 17.25 Sobota Mł. 18.25 FORUM. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Różowa pantera — film fab. ang. am. 22.10 Dzien. 22.30 Sport. 22.55 Studio muzyki rozrywkowej. 23.30 Opowieści Starszego Pana.

**Niedziela 23.XI.** 8.25 Tech. Rol. J. pol. 6.55 Hod. zwierz. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.55 Sport. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.40 Z myśli i pracy — film dok. 11.40 Lekt. Pegaza. 12.00 Dzien. 12.20 FORUM. 13.00 Przegl. polon. 13.25 Dla dzieci. 14.05 Piórkiem i węglem. 14.30 Uśmiech i piosenka. 15.15 Los. Dużego Lot. 15.30 Klub Sześciu Kont. 16.15 Film fab. 17.00 Refl. ob. 17.15 Sport. 18.05 Progi i bariery. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.25 Rodzina Whiteoaków — film ser. kan. 21.15 Ewa Demarczyk. 22.05 100 pytań do E. Brylla. 22.30 Sport.

**Poniedziałek 24.XI.** 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Chem. 15.55 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Zwierzyniec. 17.40 Echo stad. 18.05 Dzień po dniu — film ser. radz. 19.00 Mąm pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV na świecie: L. Pirandello. Kleszcze. 21.10 Pr. publ. 22.00 Śpiewa M. Wobornikova. 22.30 Dzien. 22.50 Sport.

**Wtorek 25.XI.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Chem. 9.00 Dla najmł. (kl. I) Mat. 10.00 Dla szkół (kl. II lic.) J. pol. A. Mickiewicz „Dziady” cz. II. 11.05 (kl. VII) Wych. plast. Rzeźba. 11.35 Rodzina Whiteoaków — film ser. kan. 12.55 Dla szkół średn. Rodzina współcz. Mój chłopak, moja dziewczyna. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiekyw. 17.00 Nie tylko dla pań. 17.25 Studio Mł. 18.10 Wszystko za wszystko. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Czterdziestolatek — film ser. 21.25 Świat i Polska. 22.10 Dzien. 22.30 Sport.

**Środa 26.XI.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Mech. rol. 10.00 Dla szkół (kl. V) Hist. Złoty wiek Aten. 10.30 Czterdziestolatek — film ser. 12.45 Tech. Rol. Upr. rośl. 13.25 Hod. zwierz. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Los. Małego Lot. 17.10 Sport. 18.50 Czym żyje świat. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Ręce nad miastem — film wł. 22.00 Anatomia sukcesu. 22.40 Dzien. 23.00 Sport.

**Czwartek 27.XI.** 6.00 Tech. Rol. Upr. rośl. 7.00 Hod. zwierz. 9.00 Dla szkoł (kl. VIII i I lic.) Przysp. ob. Młodzież polska w walce. 9.30 Ręce nad miastem — film fab. wł. 13.45 Tech. Rol. Hist. 14.30 Upr. rośl. 15.05 Mat. w szkole. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z bratkiem. 18.10 Poligon. 18.30 Sprawy Polaków. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Teatr Sensacji: E. J. Mason i T. Willis. Epidemia zbrodni cz. II. 21.30 Pegaz. 22.20 Dzien. 22.40 Sport.

**Piątek 28.XI.** 6.30 Tech. Rol. Hist. 7.00 Upr. rośl. 9.30 Film fab. 11.05 Dla szkół (kl. I—III lic.) Wych. tech. Człowiek i maszyna. 12.45 Tech. Rol. Mat. 13.25 Bot. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pora na Telesfora. 17.35 Mała Encykl. Zwierz. — film ser. fr. 18.35 Eureka. 19.10 Wyst. Am. Jugosławii. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.40 Panorama. 21.45 Żywoty instr. muz. odc. 3. 22.45 Dzien. 23.00 Sport.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 21.XI** — 8.15 Film fab. 13.25 Film fab. 14.45 Film fab. 19.30 Jazda fig. na lodzie. 20.20 Koncert.

**Sobota 22.XI.** — 10.00 Film dok. 11.00 Koncert. 12.00 Hokej. Dynamo (Moskwa) — Sibir. 16.15 Film anim. 17.15 Spektakl. 19.30 Pr. art.

**Niedziela 23.XI** — 11.30 Film fab. 13.40 Film fab. 14.10 Cyrk. 15.00 Panorama międzynar. 15.30 Filmy anim. 16.15 Opera. 18.00 Klub film. 19.30 P. nożna. Turcja—ZSRR.

## КІНО

**Białowieża** Cichy Don I s. — radz. 25—26. Cichy Don II s. radz. 27—28. Sekretarz rajkomu — radz. 29—30.

**Czeremcha** Ballada o żołnierzu — radz. 25—26. Trudne godziny — radz. 29—30.

**Czyże** Faraon — pol. Hasło Korn — pol. 26—30.

**Dubicze Cerkiewne** Janosik — pol. Bumerang — pol. 26—30.

**Gródek** Świeć moja gwiazdo — radz. 29—30.

**Kleszczele** Agent nr 1 — pol. 25—26. Miasto niezwykłe Warszawa — pol. 27—28. Ziemia obiecana — pol. 29—30.

**Michałowo** Na tropach szpiega — radz. 26—27. Po kruchym lodzie — radz. 27—28. Sprawa trzynastu — radz. 29—30.

**Mielnik** Matka — radz. 26. Eskadra czuwa — radz. 29—30.

**Milejczyce** Na krawędzi — pol. Szklana kula — pol. 26—30.

**Narew** Jak być kochaną — pol. Ewa chce spać — pol. 26—30.

**Narewka** Awans — pol. Legenda — pol. 26—30.

**Nurzec** Ziemia obiecana — pol. 25—26. Pierwszy lot — pol. 27—28. Nowy — pol. 29—30.

**Orla** Pierścień księżnej Anny — pol. Paryż-Warszawa bez wizy — pol. 26—30.

**Rajsk** Jadą goście jadą — pol. Drewniany różaniec — pol. 26—30.

B.Z.Graf. Zam. 2749. P-1.




# ТРЫ КНІЖКІ ПРА АДНАГО ПАЭТА

У апошнія гады наглядаецца павышанае зацікаўленне жыццём і творчасцю паэта Людвіка Кандратовіча (Уладзіслава Сыракомлі). Доказам гэтага з'яўляюцца, між іншым, кніжкі пра вясковага лірніка, якія ў адносна кароткім часе паявіліся ў нас і ў БССР: праца польскага даследчыка Фелікса Фарнальчыка „Непакорны лірнік вясковы“ і дзве кніжкі беларускага паэта, супрацоўніка інстытута Мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР Кастуся Цвіркі. Першая з іх — „Слова пра Сыракомлю“ — мае болей навуковы і даследчы характар, а другая — „Дарога ў сто год“ — з'яўляецца пашыраным рэпартажам або нарысам з вандровак аўтара кніжкі па мясцінах, звязаных з жыццём Уладзіслава Сыракомлі.

Нарадзіўся Людвік Кандратовіч у збяднелай шляхецкай сям'і, якая здаўна ўжо пазбаўлена была ўласнай зямлі і сядзела на арэндах чужых маёнткаў. Карміла яго самая карэнная беларуская зямля. Цяпер родная вёска Уладзіслава Сыракомлі Смольгава з'яўляецца цэнтрам калгаса „Ленінскі шлях“ у Юшкавіцкім раёне Мінскай вобласці.

З юнацкіх год малады Людвік вымушаны быў сам зарабляць на ўласнае ўтрыманне. Працаваў ён цяжка ўсё жыццё, каб неяк пракарміць сваю сям'ю. Працаваў пяром і плугам. За кніжкі плацілі дрэнна, а арэнда панскіх маёнткаў не прыносіла ніякага прыбытку. Праслаўлены паэт, вершы якога з захапленнем чыталі ў шляхецкіх і чыноўніцкіх салонах, часта не меў грошай на хлеб для вялікай сям'і. Лёс яму не спрыяў. Восенню 1852 года на працягу аднаго тыдня памерла ў Кандратовічаў аж трое дзяцей. Цяжкая па-над сілы праца паэта і асабістае няшчасце надарвалі яго здароўе, і ён памёр на 39-ым годзе жыцця, у той час, калі яго талент дасягнуў найвышэйшага росквіту.

Творчасць Уладзіслава Сыракомлі вырасла на народнай глебе. У гэтым згодны даследчыкі. „Народнасць, — сцвярджае Ф. Фарнальчык, — была тым фактарам, які — як і культ нацыянальнай традыцыі — вызначаў галоўныя напрамкі літаратурных пачынанняў Сыракомлі“.

Кастусь Цвірка ў сваю чаргу адзначае, што *„цяжка пераацаніць значэнне публіцыстычных выступленняў* (у абарону Дуніна-Марцінкевіча) *Уладзіслава Сыракомлі для развіцця беларускай літаратуры“*. Тут таксама аўтар прыводзіць выказванні выдатнага беларускага даследчыка, прафесара Н. С. Перкіна пра тое, што без гэтай падтрымкі *„перш за ўсё з боку Сыракомлі, Дунін-Марцінкевіч магчыма не стаў бы тым, чым ён стаў для беларускай літаратуры“*.

Уладзіслаў Сыракомля і ў вершах, і ў артыкулах, і ў шматлікіх нарысах так усебакова і падрабязна апісаў Беларусь з палавіны мінулага стагоддзя, як ніхто да яго. Адзначае гэта і Ф. Фарнальчык у сваёй манаграфіі пра Сыракомлю, прыводзіць ён нават вядомы беларускі верш вясковага лірніка *„Добрыя весці“*, які пачынаецца са слоў: *„Заходзіць сонцэ пагоднага лета, веець вецер з заходніх нябёс...“* Гэты верш (а было такіх вершаў, мабыць, значна больш) з'яўляецца найлепшым доказам таго, што паэт даволі добра ведаў мову беларускіх сялян і свабодна ёю карыстаўся.

Дык праўду кажа Кастусь Цвірка, калі сцвярджае, што *„творчасць Уладзіслава Сыракомлі з'яўляецца яркім прыкладам дружбы дзвюх братніх літаратур — польскай і беларускай“*.

Ад сябе дадам, што ў гэтым галоўная сіла творчасці Уладзіслава Сыракомлі, што ў гэтым несмяротнае яе значэнне, асабліва цяпер, калі між нашымі народамі ўжо назаўсёды ўстанавілася братэрскае супрацоўніцтва. Дык варта памятаць аб кніжках, якія гавораць пра паэта, паслядоўнага трыбуна гэтага супрацоўніцтва.

**Віктар Рудчык**




# НЕ МАЕЦЕ РАЦЫІ, СЯБРА СТАНУЛЕВІЧ!

У „Ніве“ № 34 за 24 жніўня С. Станулевіч з Ольштына пісаў крытычна аб выпускніках беларускіх ліцэяў. З вашай ацэнкай, сябра Станулевіч, не згаджаюся. І хачу паяснення: як разумееце „беларускае выхаванне“? Вы пішаце: „У тым ліцэі (не пытаў у якім), акрамя беларускай мовы як прадмета, больш нічога беларускага няма“. І яшчэ пытанне: што трэба разумець пад словам „беларускае“.

Вы і ваш знаёмы ў ацэнцы ліцэяў глыбока памыліліся. Я таксама выпускнік беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Хаця прайшло ўжо чатыры гады, аднак з прыемнасцю вяртаюся да ўспамінаў аб сярэдняй школе. Хачу таксама даць адказ на пытанні, як я разумею беларускае выхаванне.

Ніколі я не ацаняў і не думаю ацаняць агулу па адзінцы. Як пагаворка кажа, „Усюды ёсць людзі і людзішкі“. Так і тут. Вы і ваш знаёмы на падставе адной асобы далі апінію аб беларускіх ліцэях. Калі ўжо пры слове, дык трэба скарыстаць і заўвагі настаўніцы беларускай мовы ў пачатковай школе № 2 у Гайнаўцы Ірыны Навацкай. („Ніва“ № 31, ад 3 жніўня 75): „Найгорш жа з дзяцьмі тых бацькоў, што хоць самі вышлі з вёсак, але пабудаваліся ў Гайнаўцы, прыдбалі легкавыя машыны і ўжо ўважаюць сябе за вялікіх паноў ды пагарджаюць сваёй роднай мовай і ўсім, што беларускае“.

Бачым гэта ў пачатковай школе. Што будзем далей гаварыць. Просты і кароткі вывад: дзеці такіх бацькоў не будуць шанаваць беларускай культуры. Даю свой прыклад. Пасля заканчэння ліцэя далёка выехаў вучыцца. Там пазнаёміўся з калегам, таксама (раней з вёскі, цяпер з вуліцы) з Гайнаўшчыны. Купіць „Ніву“ там труднавата, але часам ёсць магчымасць. Як купіў, то трэба і пачытаць. Прыходзіць той калега, паглядзеў з-пад ілба на мяне, што чытаю „Ніву“, нічога не сказаў. Падышоў да прыёмніка і падкруціў галасней. Я чытаў далей. Аж тут бачу, пішуць пра яго „вуліцу“. Кажу: Валодзя, пішуць аб тваёй вёсцы. І пачаў чытаць у голас. Ён падышоў да мяне і выхапіў „Ніву“, хацеў парваць.

Шкада, што гэты калега не выпускнік беларускага ліцэя, а то быў бы гатовы адказ аўтару з Ольштына і яго знаёмаму. Наогул колькі разоў даводзілася сустракацца з выпускнікамі беларускіх ліцэяў, вельмі хутка працягвалі гутарку, нават і на роднай мове. Яшчэ прыклад свайго калегі Багдана, з якім правучыўся я чатыры гады ў ліцэі і пасля ў вышэйшай школе. Багдану было цяжка вучыцца на беларускай мове. Дома на ёй не гаварыў, вучыўся з таго, што было на ўроках беларускай мовы. Цяжкасці яго бачыў прафесар В. Сакоўскі, таму і крыху менш ад яго вымагаў. Але справа не ў гэтым. Калі мы апынуліся далёка ад родных мясцін, мы часта стараліся гаварыць на беларускай мове. Не давялося пачуць ад Багдана такіх слоў, як ад Валодзі. З ім я свабодна мог гаварыць, як мне падабалася.

Гэта былі прыклады. Я саменькі беларускую мову вывучаў з першага класа і хачу сказаць, што яна мяне навучыла адчуваць сябе беларусам. Гэта не праўда, што ў нашых ліцэях „нічога беларускага няма“.

Класы беларускай мовы багатыя (пішу аб Гайнаўскім). Увойдзеце ў клас — і аж вочы разбягаюцца ад народнага мастацтва. Клас музеем не можа быць, але што можа даць, тое дае. Школа імкнецца паказаць сваім вучням багацце беларускай культуры. Абсалютна не згаджаюся з апініяй С. Станулевіча аб беларускіх ліцэях.

**Пякучы**

## Што ў беластоцкім тэатры?

Дзяржаўны драматычны тэатр імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку прапануе сваім гледачам дзве п'есы: *„Я сёння да цябе прыйсці не магу“* і *„Залёты“ Бернарда Шоу*.

Спектакль *„Я сёння да цябе прыйсці не магу“* пастаўлены на падборцы партызанскіх, салдацкіх і антываенных песняў. Аўтарамі пастаноўкі з'яўляюцца Лех Будрэцкі і Ірэній Каніцкі. Спектакль вельмі цікавы, перадае атмасферу барацьбы з фашысцкімі захопнікамі, дақазваючы, што краіну можна заваяваць сілай, але народу, які кахае сваю айчыну, ніхто не зняволіць.

Другі спектакль — вясёлая камедыя славутага англійскага драматурга Бернарда Шоу — *„Залёты“* разыгрываецца ў камеральных абставінах, выступаюць у ёй усяго дзве дзеючыя асобы.

Гэтую п'есу беластоцкія акцёры паказвалі ўжо ў Белавежы, Гайнаўцы і Гарадку, а 25 лістапада паедуць з ёй у Сямяцічы, 29 — у Дуброву і 30 лістапада — у Міхалова. У снежні таксама будуць яе паказваць у іншых мясцовасцях Беластоцкага ваяводства. На жаль, адміністрацыя тэатра не мае яшчэ дакладна распрацаванага маршруту паездак на месяц снежань.

Шкада, што нашы сябры, якія жывуць далёка ад Беластока, не змогуць пабачыць цікавага спектакля *„Я сёння да цябе прыйсці не магу“*. У гэтай пастаноўцы выступае так многа дзеючых асоб, што не ўмясціліся б яны ні на адной сцэне, якія знаходзяцца ў мястэчках Беластоцкага ваяводства. Ды яшчэ тэхнічныя ўмовы не дазваляюць пераносіць гэтай вялікай тэатральнай пастаноўкі на іншыя сцэны.

Што ж, Беласток не за гарамі. Варта тады прысвяціць адзін вечар, каб пабываць на гэтым спектаклі. Будзе ён у рэпертуары Беластоцкага тэатра яшчэ да 7 снежня, а затым наш тэатральны калектыў рыхтуе пастаноўку *„Танга“* Славаміра Мрожка.

(вр)



*Сцэна са спектакля „Я сёння да цябе прыйсці не магу“. Пастаноўшчыкам яго з'яўляецца Ірэній Каніцкі.*




Апошняя вераснёвая нядзеля. У будынку Беларускага ліцэя ў Бельску многа моладзі. Шмат незнаёмых твараў. Гэта першакласнікі. Сёння яны фармальна становяцца нашымі сябрамі. У 9 гадзін пачынаецца для іх вялікая ўрачыстасць — прысяга. Фізкультурная зала па-святочнаму прыбрана. Сядзяць бацькі першакласнікаў і прадстаўнікі старэйшай моладзі. Уваходзяць настаўнікі. За імі ўрачыстыя першакласнікі. Становяцца ў рады. Вучні чацвёртага класа ўносяць школьны сцяг. Да яго набліжаюцца прадстаўнікі чатырох першых класаў. Найлепшая вучаніца другога класа Святлана Міранюк чытае прысягу. Усе першакласнікі паўтараюць за ёй. Іх твары сур'ёзныя.

Потым вучаніца трэцяга класа Крыстына Парфенюк ад імя ўсёй моладзі ліцэя жадае ўсім першакласнікам усяго найлепшага ў новай школе і добрай вучобы. У далейшым адбываецца сустрэча настаўнікаў з бацькамі. Дырэктар ліцэя мгр А. Карпюк знаёміць бацькоў з гісторыяй нашай школы. Асаблівую ўвагу ён звяртае на супрацоўніцтва бацькоў і настаўнікаў у выхаванні моладзі.

А вось класныя кіраўнікі паасобных першых класаў Беларускага ліцэя ў Бельску: А. Б. Грондская — клас Іа, Е. Б. Нядзведская — клас Іб, А. Падолец — клас Іц, С. Януцкі — клас Ід.

Сярод нашых першакласнікаў многа выдатных вучняў. Многа пераможцаў розных турніраў у павеце і ваяводстве. І так: клас Іа — Анацік Аліна, была другой у ваяводстве ў матэматычным турніры. Врацэнскі Станіслаў і Жужаль Міраслаў — у павеце ў тым жа турніры. Клас Іц — турнір польскай мовы ў павеце — Аліна Суй і Раіса Янюк, першыя месцы; фізічны турнір — Людміла Піліпюк, другое месца, а трэцяе ў турніры рускай мовы. Гэта важнейшыя дасягненні нашых першакласнікаў. Яны і далей з павагай глядзяць на сваю вучобу і будучыню.

Спатканне закончылася выступленнем школьнага хору пад кіраўніцтвам педагога Сяргея Лукашука. Песні вельмі ўсім спадабаліся, асабліва бацькам.

Пасля ўрачыстасці класныя кіраўнікі першых класаў правялі першыя бацькоўскія сходы.

**Марыля Базылюк**
**і Ірэна Гуль**
вуч. кл. ІІц



*Першакласнікі ў час прысягі.*




З імем Белавежскай пушчы ў кожнага з нас звязана ўяўленне аб першабытнай лясной глухамані, па якой ніколі нага людская не ступала. На самай жа справе гэта далёка не так. Белавежская зямля тоіць у сабе сляды чалавечай дзейнасці і жыцця тут многія стагоддзі таму назад.

Самае даўняе з вядомых дагэтуль людскіх паселішч, звязаных з Белавежскай пушчай, адкрыў у дваццатыя гады нашага стагоддзя вядомы драгічынскі краязнаўца і археолаг З. Шміт на правым беразе ракі Нарвы, каля вёскі Рудня (цяпер гміна Шымкі). Знойдзеныя там каменныя і касцяныя прылады і зброя сведчаць, што ў паселішчы жылі людзі ў палавіне эпохі неаліту (2 500-1 700 год да нашай эры, г.зн. каля 4 500 - 3 700 год таму назад). Але першабытны чалавек прабываў не толькі на нараўскім пабярэжжы. Крэмневыя прылады, каменныя тапары і рэшткі гліпянага посуду таксама з эпохі неаліту былі знойдзены і ў іншых месцах, пераважна на пясчаных абрывах пушчанскіх рачулак. Значыць, у тыя адлеглыя часы наша сённяшняя пушча нічым не адрознівалася ад іншых ваколіц тагачаснай Беласточчыны, у ёй „гаспадарыў“ першабытны чалавек таксама, як на землях, дзе сёння знаходзіцца Мельнік, Драгічын, Сураж ці Саколка.

Шаснаццаць год таму назад ва ўрочышчы Гайдукі ў надлясніцтве Звярынец беластоцкія археолагі Т. Дзяржыкрай-Рагальскі і Я. Ясканіс даследавалі шкілетнае пахаванне дзіцяці з III-IV стагоддзяў нашай эры, г. зн. недзе 1600-1700 г. таму назад.

У часе I сусветнай вайны нямецкі археолаг А. Гёце адкрыў у Белавежскай пушчы аж 328 курганоў! Даследаваў жа толькі 35 курганоў, пры гэтым сцвердзіў, што многія з іх утвараюць абшырныя могільнікі. У даследаваннях жа знайшоў або рэшткі пахавальнага кастра або шкілетныя пахаванні. Гэтыя першыя ён адносіць да дахрысціянскай эпохі, другія ж — да XI-XII стагоддзя нашай эры.

Польская даследчыца І. Гурская ў 1963 г. правяла даследаванне тэрыторыі Белавежскага нацыянальнага парка і адкрыла ў ім 79 курганоў, а ў пушчы, ва ўрочышчы Камень яшчэ 103 курганы. Яны таксама з'яўляюцца колішнімі пахаваннямі. Знойдзеныя ў іх выкапні яшчэ даследуюцца.

Калі завесці размову з леснікамі і ляснымі работнікамі, што працуюць у пушчы і добра ведаюць усе яе самыя глухія куткі, дык даведваемся пра мноства курганоў, рассыпаных па ўсім яе абшары. Гэтыя сляды колішняга жыцця людзей яшчэ чакаюць даследчыкаў.

Словам, Белавежская пушча захавала нам многа звестак пра жыццё і актыўную дзейнасць у ёй соцень пакаленняў людзей. Відаць, калісьці яна была зусім не пушчай, а даволі густа заселенай і рухлівай ваколіцай.

(іс)

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### РЭЧЫВА — ПЕРАНОСЧЫК ІНФАРМАЦЫІ

Спачатку некалькіх мышэй прывучылі баяцца цемнаты. Для гэтага ў цемнаце над імі ўчынялі розныя непрыемныя рэчы: то іх калолі іголкай, то пускалі электрычны ток, то награвалі падлогу, па якой яны бегалі.

Калі гэтыя мышы ўжо нізавошта не хацелі пераходзіць з асветленай клеткі ў цёмную, група амерыканскіх біёлагаў выдзеліла з іх мозгу рэчыва, якое мае дзівосную ўласцівасць. Калі яго ўводзілі ў мозг нетрэніраваных мышэй, яны пачыналі баяцца цемнаты гэтак жа, як іх трэніраваныя субраты.

Цікава, што гэта незвычайнае рэчыва, якое здольна захоўваць навучальную інфармацыю, цяпер удалося атрымаць і сінтэтычным шляхам.

*то нэ быў бы я тута.*
*Там на выгоны ходылі коны —*
*ўсё жэлезны ключы.*
*Ой, сподобайся мніе той кавалер,*
*з вэдром по воду ідучы,*
*ой, сподобайся мніе той кавалер,*
*з вэдром по воду ідучы.*
*Нэ так по воду, нэ так по воду,*
*як у за ім з водою.*
*Ой, сподобайся мніе той кавалер*
*Дурна дыўчына, бэзрозумная*
*по кавалеру плачэ,*
*дурна дыўчына, бэзрозумная*
*по кавалеру плачэ.*
*— Ой, як жэ і мніе то й нэ плакаты -*
*самы слёзонькі льюця:*
*од міленького лістонькі нэ ідут,*
*а од нэлюбого шлюця,*
*од міленького лістонькі нэ ідут,*
*а од нэлюбого шлюця.*

Ад Анны Парфенюк, 1923 года нараджэння, Веры Кошаль, 1926 года нараджэння, і Надзеі Грушэўскай, 1942 года нараджэння, вёска Арэшкава гміны Дубічы Царкоўныя, запісаў 4 сакавіка 1975 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.



# Крылатая сям'я Вольгі Васілюк

Яшчэ і дзень надобра не народзіцца, а певень — верны вясковы будзільнік — ужо пачынае сваю прывітальную песню. І так зацягне, што, хоч-не хоч, праціраеш вочы і пачынаеш памалу ўставаць. І то толькі адзін, а што гаварыць, калі трыста наладзіць свой канцэрт, падымаючы заадно дзве тысячы сто курэй, якія таксама не ўседзяць спакойна! Аб гэтым ужо нешта можа сказаць Вольга Васілюк са Звадзецкага, што недалёка ад Навасад, бо менавіта столькі штук яна трымае на сваёй ферме.

Гадоўляй хатняй птушкі займаецца яна ад 1967 года. Адкуль прыйшла такая думка? А вельмі проста. Калі сам чалавек не здагадаецца, дык другія падкажуць. Так яно і тут было. В. Васілюк мігам ажыццявіла тое, што ёй параіў знаёмы. Купіла 300 куранят і пачала гадоўлю. Вядома, гэта ж толькі пачатак, не было магчымасці так адразу размахнуцца. Папершае, не хапала адпаведнага памяшкання, а па-другое, не было ў яе ў гэтым напрамку ніякага вопыту. Але дзень за днём, з месяца ў месяц перашкоды змяншаліся, і нарэшце, гэта значыць у 1973 г., вырас прыгожы вялікі мураваны куратнік.

Накіроўваемся туды. Спачатку трэба прайсці праз невялічкія сенцы, з абодвух бакоў якіх знаходзяцца спецыяльна выдзеленыя памяшканні на склад корму. Корм, у сувязі з тым, што свайго ёсць вельмі мала (а каб накарміць гэтую крылатую армію, трэба аж 10 тон у месяц), В. Васілюк купляе на Беластоцкім прадпрыемстве птушкагадоўлі.

Надзеўшы ў сенцах спецыяльныя гумавыя боты і белыя хвартухі, уваходзім у гэтае птушынае царства. Пачаткова, не ведаючы, на чым спыніцца, вочы так і бегаюць па велізарнай пабеленай зале, у якой, нібы белыя хвалі вялікага белага мора, калышуцца куры. Аднак паволі пачынаеш прызвычайвацца і заўважаць паасобныя элементы, напрыклад, тое, што з левага боку, пры самай сцяне, стаяць пазбіваныя цэлыя шафы клетак. Гэта месца, дзе куры зносяць яйкі. Сярэдзінай (уздоўж усяго куратніка), выдзеленая з абодвух бакоў электрычнымі лямпачкамі, якія гараць дзень і ноч, пракладзена дарожка. Па гэтай дарожцы носяць корм, ваду і напаўняюць тыя кармушкі і пойлы, што звісаюць са столі аж да самай падлогі, усыпанай пяском, перамешаным з вялікай колькасцю збожжавай і травяной сумесі.

Адно здзіўляе. Чаму заслоненыя вокны? Але В. Васілюк хутка развявае нашае здзіўленне. Праўдападобна, калі сонечны дзень і промні святла падаюць у памяшканне, куры пачынаюць паміж сабой біцца. А гэта вельмі небяспечная з'ява. Не ў тым рэч, што пакалечацца. Гэта было б паўбяды. Але калі толькі ўбачаць сярод сябе закрываўленую, дык можна лічыць, што прапала. Так і задзяўбуць.

Адносна яек, бо перш за ўсё ў гэтым напрамку накіроўваецца ферма: дзённая „прадукцыя“ дасягае 1500 штук.

— А што з курамі? Не вечна ж трымаць тых самых?

— І пэўна. Калі падрастуць закупленыя куранята да такой ступені, што можна будзе адрозніць курку ад пеўня, наступае разборка, гэта значыць, забіраюць надмерную колькасць пеўняў. Ды і наогул куры жывуць тут толькі адзін год. Прайшоў час, і наступае абмен. Старыя ідуць у харчовую прамысловасць, а на месца іх прыходзяць новыя. Усё ўжо гэта прадугледжана загадзя.

Як відаць, ферма вялікая, і напэўна трэба многа працаваць, каб усё ішло добра.

— Ну, а якія планы на будучыню? — пытаем на заканчэнне.

— Разбудаваць ферму і ўвесці трохі новага, — паясняе нам В. Васілюк.

І сапраўды. Пакуль што ўсё тут ідзе ўручную. Не хапае механізацыі. Аднак планы ўжо ёсць. Перш за ўсё думаюць увесці цэнтральнае ацяпленне і вентыляцыю. А потым трэба будзе прыняцца за тое, што не дакончыў гайнаўскі ПОМ, гэта значыць, аўтаматызаваць падвоз корму, што будзе вялікім аблягчэннем у працы.

**М. Сакоўскі**
Фота **Я. Цялушэцкага.**



*Вольга Васілюк сыпле зерне ў кармушкі.*

У кнігарні ў Бельску можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Іван Навуменка,** Тая самая зямля, 1971, стар. 208, цана 3 зл. 60 гр.

Зборнік апавяданняў пісьменніка і літаратуразнаўцы сярэдняга пакалення. У ім ён у асноўным вяртаецца да жыцця ягоных аднагодкаў у вогненныя гады мінулай вайны. Паказвае таксама сучасны дзень савецкіх дзяўчат і юнакоў.

**Лойка Алег,** Сустрэчы з днём сённяшнім, 1968, стар. 172, цана 3 зл. 70 гр.

Кніга літаратуразнаўчых артыкулаў паэта і навуковага працаўніка Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Аўтар у іх разглядае самыя выдатныя творы сучаснай беларускай паэзіі. Пры гэтым ён дае характарыстыку стылю і асаблівасці творчасці паасобных паэтаў.

**Якімовіч Алесь,** Кастусь Каліноўскі, 1971, стар. 248, цана 6 зл. 10 гр.

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

Дакументальная аповесць аб нацыянальным героі беларускага народа, выдатным кіраўніку Студзеньскага паўстання на Гродзеншчыне і Беласточчыне. У аповесці гаворыцца таксама аб дзейнасці паўстанцаў у ваколіцах Гарадка. Займальны і каштоўны твор асабліва для школьнай моладзі.

**Матэвушаў Васіль,** Верасы, 1972, стар. 218, цана 6 зл. 80 гр.

Зборнік лірыкі паэта старэйшага пакалення. Вядучым матывам вершаў з'яўляецца вобраз прыгожага беларускага Прыдняпроўя і постаці яго жыхароў.

**Вітка Васіль,** Выбраныя творы ў двух тамах, 1973.

Том I — стар. 418, цана 17 зл. 50 гр. У яго ўвайшлі вершы, паэмы, вершаваныя казкі. Уступны артыкул аб творчасці В. Віткі для беларускіх малалеткаў пяра Я. Брыля.

Том II — стар. 400, цана 8 зл. 30 гр. Ён змяшчае апавяданні, п'есы, артыкулы.

Двухтомнік павінен апынуцца ў руках кожнага настаўніка беларускай мовы, які выкладае ў класах II-IV. Будзе ён багатай крыніцай дасканалага матэрыялу для чытання, вывучэння на памяць, пастановак на школьнай сцэне. Трэба таксама, каб ім абзавяліся ўсе школьныя бібліятэкі.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу:
„Dom Książki” nr 8, 17-100. Bielsk Podlaski, ul. Mickiewicza 66.

(мг)



— Усё б нічога, ды кожны дзень даводзіцца мыць галаву!

Пакуль вы адпачывалі, Іван Сямёнавіч, новага супрацоўніка ў наш аддзел узялі.

— О, гэта навіна! І як ён у нас? Выйдзе што?

— Не ведаю. Першае ўражанне, відаць, абманлівае. Але, калі сказаць праўдзе, надзеі мала. Прыйдзецца нам дваім пацець...

— Ну, брат, гэта не тое. Удваіх атрымлівеецца не заўсёды. Памятаеш, як перад маім адпачынкам увесь дзень галовы ламалі. А толку? Нават на 50 працэнтаў не выцягнулі. А ён што, і сапраўды ні-ні?..

# Няхай і працуе

— Ды як вам сказаць? Вельмі слаба. Спытаў учора, як называецца снарад для акеанаграфічных даследаванняў, і то не ведае. А назваў заліў Атлантычнага акіяна ля берагоў Ірландыі, дык у яго вочы на лоб палезлі. Ён нават не ведае, як называецца ўзвышэнне для лектара.

Пасля гэтых слоў у Івана Сямёнавіча зусім настрой сапсаваўся:

— Не шанцуе нам на супрацоўнікаў. Ах, не шанцуе! А між іншым... Ён работу хоць ведае?

— Ды ў рабоце хлопец кемлівы. Тут нічога не скажаш...

— Можа, гэта і лепш. Няхай ён працуе. А мы ўжо самі галаву ламаць будзем. Удваіх. Хоць не на ўсе, але на 50 працэнтаў скумекаем. Пакажам яму і свае веды, і эрудыцыю. Дапаможам павысіць кругагляд. Ну, а цяпер давай папрацуем...

Не губляючы часу на далейшую размову, два супрацоўнікі аднаго аддзела ўзяліся разгадваць красворд.

В. Найдзін

### ПАМІРЫЎ

Сядзяць муж і жонка, вячэраюць, ажно чуюць — на вуліцы бойка пачалася.

— Пайду паміру, — кажа муж.

— Сядзі і не рыпайся, — жонка да яго.

Не паслухаў, накінуў кажух і выйшаў. Праз нейкі час прыходзіць у адной кашулі.

— Ну, чаго там ім бракавала? — пытае жонка.

— Майго кажуха, — адказаў муж.





### БЕЗ СОРАМУ

У адзін дом прыехалі сваты. Гаспадыня вучыць дачку сказаць гасцям, каб яны піл-елі і не саромеліся. Дзяўчына выйшла да гасцей і гаворыць:

— Ешце, піце, госці, няхай у вас сораму не будзе.



— З жонкай усё ўладкавана, можаце ўжо тасаваць, зараз буд.

# НІЎКА

### НАДЗЕЙНЫ СРОДАК

— Я прызнаю, што грошы — гэта яшчэ не ўсё ў жыцці, — уздыхнула жанчына, — але яны так супакойваюць нервы.

### ДАГАЎКАЎСЯ

Прыйшоў п'яніца да самагоншчыцы, каб пахмяліцца. А сабака сарваўся з прывязі і накінуўся на яго. П'яніца адступаў, пакуль не ўпаў у глыбокую яму з вадою. А там вынырнуў з вады ды да сабакі:

— Ага, дагаўкаўся!



Без слоў.



Матч адбудзецца ў любую пагоду.

### СВЕДКА

— Вы сцвярджаеце, — спытаў суддзя, — што былі сведкам таго, як у сям'і Сабоўскага пачаўся разлад?

— Так, высокі суд, я быў шаферам на іх вяселлі.

### ТУТ ПАДЫШОЎ КІНДЗЮЛІС...

— Што такое этыкет?

Туп падышоў Кіндзюліс і вытлумачыў:

— Уменне пазяхаць з закрытым ротам.

### СЛЯПАЯ ЛЮБОЎ

Каб быў здаровенькім сыночак,
Не меў каб горачка ў жыцці,
Шаптала маці над ім ноччу:
— Шчаслівым, родненькі, расці...

Падрос, у школе стаў вучыцца.
Вучоба — гэта не гульня.
Зноў трэба маці клапаціцца...
І клапацілася яна.

Задачкі школьныя рашала
І малявала за яго,
Ад працы ўсё аберагала
Сыночка мілага свайго.

У дні, калі ён быў дзяжурны
І не ўпраўляўся клас прыбраць,
Матуля ўзніме плач хаўтурны,
Бяжыць сынку дапамагаць.

Пястун падрос, пачаў бадзяцца,
У рэстараны заглядаць,
Знайшлася знова для маці праца —
Сынка ад чаркі ратаваць.

Не ўратавала... Новы смутак,
Што не знайсці, здаецца, горш:
Сын атрымаў пятнаццаць сутак
За хуліганства і дэбош.

Парогі ўсе аббіла маці,
Маліла ўсіх:
— Я ж вам кажу,
Не крыўдзіце майго дзіцяці,
Лепш я той тэрмін адсяджу.

Цімох Карага



...Такі далікатны, дзесятаю дарогаю абмінае закон.

...Ніколі не выходзіў з рамак прыстойнасці — іх у яго проста не было.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Галіны Юзвюк з Барысаўкі змяшчаем песню*



— Вось бачыце, дастаткова мацней закруціць кран, і ўжо не капае.





### ПРАФЕСІЯ

Гюго накіраваўся ў Прусію. На граніцы жандары, запаўняючы анкету, спыталі пісьменніка:

— Чым займаецеся?

— Пішу, — адказаў Гюго.

— Я пытаюся, чым здабываеце сродкі на жыццё?

— Пяром, — адказаў той.

Жандар напісаў: „Гюго, гандляр пяром".

### АДКАЗ

Аркадзь Аверчанка, рэдактар „Нового Сатирикона", атрымаў пісьмо аднаго з чытачоў: „...Я пакахаў бедную і не вельмі прыгожую дзяўчыну, а тут у мяне закахалася маладая прыгажуня-багацейка. Навучыце мяне — што рабіць?".

Адказ быў дадзены адразу ж:

„Вы павінны ажаніцца з дзяўчынай, якую кахаеце, і хутчэй. Сэрца — перш за ўсё! Мне ж прашу выслаць тэлефон і адрас той другой дзяўчыны. Ваш Абе".

### ВЫХАД

Вялікі італьянскі кампазітар Джузепе Вердзі, гуляючы ў наваколлях Неапаля, заглянуў у маленькую таверну і папрасіў падаць шклянку к'янці і смажанае кураня.

Шынкар адразу ж пазнаў, што за славутасць сядзіць у яго за столікам, і вырашыў садраць з госця даражэй.

— Зараз будзе пададзена, сеньёр. З вас дзесяць лір.

— Дзесяць лір! — прытворна жахнуўся Вердзі. — Не, тады зарэжце паўкураня.

### ЗАХАПЛЕННЕ

Гейнэ гаварыў:

— Маці майго дзядзькі захаплялася „Прыгодамі разбойніка Картуша", і мой дзядзька стаў банкірам. А мая маці любіла мастацкую літаратуру, і вось я стаў паэтам.



Вышэйшая мера самазакаханасці: таптаць сцежку да самога сябе.